Если вас увольняют стр.2

Как живешь, педагог? стр.3

грамадска-палітычнае выданне
# Спадарожнік
г. Ганцавічы

№ 50(53) Пятніца, 21 снежня 2001 г. Кошт свабодны

# Мерзнуць дзеці і ўрачы

Анекдот пра чукчу, які купляў халадзільнік, каб пагрэцца ў ім зімой, як не дзіўна, стаў для Ганцавіч дастаткова актуальным. Не, чукчы у нас, канечне, не жывуць, але вось зіма, на жаль, бывае кожны год...

Вядома, што зімні перыяд самы небяспечны на захворванні. Таму ў раённую паліклініку з раніцы да вечара ідуць людзі. Прыходзяць гараджане, вяскоўцы, але ўмовы, у якіх персанал бальніцы працуе і прымае пацыентаў, не задавальняюць ні тых, ні другіх. Асабліва гэта датычыцца дзіцячай кансультацыі паліклінікі, дзе ў памяшканнях рэгістратуры і фізіятэрапеўтычнага кабінета тэмпература радка падымаецца вышэй лічбы +11°С. Месцамі ў пакоях з бетоннай падлогай тэмпература паветра бывае і +3°С. І значных перамен да пацыплення чакаць не прыходзіцца – зіма толькі пачынаецца. У такіх умовах дзяцей распранаюць, слухаюць, мераюць, важаць. Атрымліваецца, што, прыйшоўшы ў бальніцу, каб падлячыцца, можна, наадварот, захварэць яшча больш. Па словах урача-педыятра Яніны Іванаўны Шчэрбы, такая сітуацыя цягнецца з моманту здачы будынка ў эксплуатацыю ў 1986 годзе. Увесь гэты час і персанал паліклінікі, і яе наведвальнікі чакаюць надыходу зімы з нязменным жахам.

Незадаволенасць работнікаў і пацыентаў, як бачыце, мае падставы, але чаму ж за столькі гадоў не было зроблена ніякіх высноў? Чаму замест таго, каб прыняць кардынальныя меры, улады абмежаваліся толькі тым, што пад ціскам шматлікіх скаргаў у рэшце рэшт далі ўрачам дазвол на выкарыстанне электранагравальных прыбораў? Наш карэспандэнт звярнуўся за каментарыем да загадчыка паліклінікі Васіля Рыгоравіча Несцяровіча.

- Праблема сапраўды ёсць і цягнецца не адзін год. Кожны дзень сам кантралюю атмасферны ціск і стан сістэмы ацяплення. Сёння паглядзеў - ціск 1,6 атмасферы. А каб праходзіла цыркуляцыя вады па ўсіх батарэях, патрэбна 2,5 атмасферы. Звяртаюся да адказных асоб на ААТ "Харчавік", якія забяспечваюць ацяпленне паліклінікі, там адказваюць, што ўцечка ў нас. Праблему ведае і старшыня райвыканкама, які наведваў паліклініку на тым тыдні. Паабяцаў выдаткаваць 15 мільёнаў рублёў на пераабсталяванне абагравальнай сістэмы, але гэта магчыма толькі ў наступным годзе...

Зусім па-іншаму ставіць пытанне кіраўніцтва ААТ "Харчавік". Вось як пракаментаваў гэты факт намеснік дырэктара Мікалай Іванавіч Брытвін:

- Тэрыторыя, за якую мы нясем адказнасць, абгароджана бетонным плотам і там па ўсіх паказчыках мы вытрымліваем прызначаныя нормы. За парывы і іншыя непаладкі, якія адбываюцца за межамі гэтай тэрыторыі, мы адказнасці не нясем. Я, канечне, людзей разумею, але трубаправоды настолькі зношаныя, што калі наша кацельня павялічыць ціск да 2,5-3 атмасфер, то будзе яшчэ горш. Напрыклад, сёння ў выніку парыву па вуліцы Чайкоўскага замест вады ў людзей зранку цячэ натуральная кафейная гушча. Раніцай сам галіўся ржавай вадой. Але каб памяняць сістэму, грошай няма, камунгас жа - бюджэтная арганізацыя. Трэба, каб прадпрыемствы працавалі, тады і грошы будуць. А пакуль гэта праблема невырашальная...

Гледзячы на гэтую праблему, здаецца, вырашыць яе няма аніякай магчымасці. Але, як казаў агульнавядомы барон Мюнхаўзен: "З любога безвыходнага становішча ёсць як мінімум два выхады!" І адзін з іх ў райвыканкаме добра ведаюць: яшчэ ў бытнасць старшыні Аляксандра Свірыда вяліся размовы аб падключэнні бальніцы да гарадской ацяпляльнай сістэмы. Але, здаецца, як у нас часта атрымліваецца – пагаварылі і забыліся...

Пунктуальны чытач, мабыць, пацікавіцца: а якое ж другое выйсце? Адказ на гэта пытанне нечакана прапанавала нам загадчыца жаночай кансультацыі Ларыса Паўлаўна Юрчанка. Па яе словах, калі яна працавала ў Сібіры, у іх радзільным доме была падобная сітуацыя. Дык вось, выйсце знайшлося толькі тады, калі загадчыцу таго раддома ...абралі ў мясцовую мэрыю.

Пачакаем?!.

Пятро ГУЗАЕЎСКІ



Фота аўтара

• Жадаючых зняць верхняе адзенне ў паліклініцы даўно няма

## Навіны

## Будзем з жыллём

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства Ганцавіцкі камбінат панельнага домабудавання (КПД) у апошні час ідзе насустрач забудоўшчыкам — будуе індывідуальныя трохпакаёвыя і двухпакаёвыя дамы ў двух узроўнях з панелі, якую сам і вырабляе. Пры гэтым будаўніцтва трохпакаёвага жылога дома, напрыклад, абыходзіцца заказчыку ў 29 мільёнаў рублёў.

Домабудаўнікі клапоцяцца аб хуткіх тэмпах будаўніцтва. Мантаж трохпакаевага дома яны праводзяць за тыдзень, заканчэнне работ пад ключ – на працягу месяца.

Паслугамі камбіната панельнага домабудавання ахвотна карыстаюцца індывідуальныя забудоўшчыкі не толькі з Ганцавіцкага раёна, дзе ўжо ўзведзена дзесяць падобных дамоў, але таксама Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці, Клецкага і Капыльскага раёнаў Мінскай вобласці. У Клецку, напрыклад, у будучым годзе яны плануюць узвесці аж 20 катэджаў.

## Сярод зімы ды падтапіла

Першыя моцныя снежаньскія маразы прынеслі шмат непрыемных клопатаў многім ганцавічанам. Не вытрымаў іх націску вадаправод кааптнарыхтпрама і пацёк. Неўтаймаваная вада затапіла навакольную тэрыторыю і размешчаныя побач прыватныя гаражы.

Але бяда не прыходзіць адна. Неўзабаве патокі вадаправоднай вады напоўнілі сцёкі цэхаў прадпрыемства, хаця па логіцы яны павінны былі трапіць у каналізацыйную станцыю адкрытага акцыянернага таварыства "Харчавік". За гэта нарыхтоўшчыкі павінны сказаць "дзякуй" работнікам тэхнічнай службы "Харчавіка", якія перакрылі засаўку каналізацыйна-помпавай станцыі.

У выніку раённая санэпідстанцыя пагражае закрыць вытворчыя цэхі каапнарыхтпрама.

## Скрытае беспрацоўе

Амаль на два месяцы пазбавіліся работы і прымусова пайшлі ў водпуск многія работнікі ДРБУ-100. Прычына банальная: у арганізацыі не хапае сродкаў на правядзенне рамонтных работ і выплату заработнай платы сваім рабочым.

Між іншым такога б не здарылася, калі б у ДРБУ-100 у дастатковай ступені паступалі грошы за выкананы аб'ём работ. На жаль, арганізацыі запазычылі дарожнікам даволі-такі буйную суму — 146 мільёнаў рублёў. Яе і не хапіла на далейшае развіццё вытворчасці і так неабходную зарплату рабочым.

Падрыхтаваў К. МОХАР

# Если вас увольняют

Наши консультации

Проблема безработицы в Ганцевичском районе одна из самых злободневных. Крупные предприятия можно перечесть на пальцах одной руки, да и те работают далеко не в полную мощность.

Найти хорошо оплачиваемую работу удается немногим. В последнее время ситуация осложнилась в связи с сокращениями рабочих мест в организациях ПМК-14, МПМК-7, в учреждениях отдела образования и культуры.

Впрочем, в роли безработного может оказаться каждый из нас. Вот поэтому жителям региона было бы, наверное, полезно узнать, куда можно обратиться в подобной ситуации, где можно получить консультации, касающиеся увольнения и трудоустройства. На эти и другие возникающие вопросы мы попросили ответить консультанта бюро социальной информации Белорусской организации трудящихся женщин Екатерину Анисимову.

**- Екатерина, прежде всего поясните, что может стать основанием для сокращения работника?**

- Основанием для этого могут быть уменьшение объемов работ; совершенствование методов и приемов труда; внедрение нового оборудования; проведение технических и организационных мероприятий. При этом численность других специальностей может быть увеличена. Если после увольнения работника по данному основанию на его место принимается новый работник, это означает, что фактического сокращения не было, и уволенный работник имеет право на восстановление на работе.

**- А должен ли наниматель предложить человеку, попавшему под сокращение, другую работу с учетом его квалификации?**

- При сокращении численности или штата работников наниматель вправе в пределах однородных профессий и должностей произвести перестановку (перегруппировку) работников и перевести более квалифицированного работника, должность которого сокращается, с его согласия, на другую должность, уволив с нее менее квалифицированного работника. Однородными профессиями (должностями) являются те, что имеют аналогичные или сходные функции с возможным различием в квалификации (разряде, классе, категории и т. д.).

Увольнение допускается, если невозможно перевести работника, с его согласия, на другую работу (в том числе с переобучением). По сложившейся практике наниматель должен принять все меры к трудоустройству работника у себя.

**- Имеет ли право наниматель уволить работника без предупреждения о сокращении?**

- Наниматель обязан не менее чем за два месяца письменно предупредить работника о расторжении с ним договора по пункту 1 статьи ч.42. Предупреждение может быть оформлено приказом, распоряжением или иным письменным документом. Письменное предупреждение объявляется работнику под роспись. Статья 43 Трудового кодекса предоставляет нанимателю право заменить данное предупреждение выплатой компенсации с согласия работника, которое также должно оформляться письменно.

**-Что должен гарантировать наниматель работнику после предупреждения о сокращении?**

- Работнику в период срока предупреждения предоставляется один свободный день в неделю без сохранения заработной платы для решения вопроса о самостоятельном трудоустройстве у других нанимателей. По договоренности с нанимателем или если это предусмотрено коллективным договором, соглашением, работнику может предоставляться один свободный день в неделю с сохранением заработной платы.

В период срока предупреждения работник выполняет свои трудовые обязанности, подчиняется правилам внутреннего трудового распорядка, ему гарантируются условия и оплата труда наравне с другими работниками. Кроме того, наниматель не менее за два месяца обязан уведомить государственную службу занятости о предстоящем высвобождении работника.

**-Екатерина , обязан ли наниматель выплатить работнику выходное пособие, и в каком размере?**

- Наниматель обязан выплатить работнику выходное пособие в размере не менее трехкратного среднемесячного заработка. Если Вас "просят" уйти по собственному желанию, то Вы теряете право на эту компенсацию. А при отсутствии уважительных причин для увольнения по собственному желанию (например, болезнь, инвалидность) службой занятости может быть отказано в получении пособия по безработице.

**- Что делать, если после сокращения наниматель отказывается выплатить положенную сумму?**

- Если Вас уволили с нарушением вышеперечисленных условий, например, выплатили выходное пособие в размере меньшем, чем положено, Вы можете обратиться с иском в суд или комиссию по трудовым спорам.

Екатерина Анисимова
Консультант Бюро
социальной информации



Фото Евгения ЯНУКЕВИЧ

• Чтобы не было мучительно больно...

## Цены на продукты на рынках (в руб.)

| | Барановичи | Ганцевичи | Ляховичи |
|---|---|---|---|
| Сало | 2600-3200 | 3400 | 3200 |
| Окорочка | 2500-2600 | 2600 | 2500 |
| Масло раст. | 1350 -1800 | 1400-1700 | 1500-1800 |
| Чеснок | 2300 | 2500 | 2500 |
| Лук | 500 | 450 | 400 |
| Яблоки | 900 | 850 | 450-550 |
| Помидоры | 2000 | 1800 | 2000 |
| Апельсины | 1500-1800 | 1500-1900 | 2000 |
| Мандарины | 1700-2300 | 1900-2100 | 2100 |
| Бананы | 1200 | 1200 | 1200 |
| Лимоны | 1700 | 1500-1800 | 2000 |
| Киви (1шт.) | 300 | 300 | 400 |
| Гранаты | 2500 | 2500 | 3000 |
| Виноград | 3400-3800 | 2500 | 2000-3500 |
| Хурма | 1800-2800 | 3500 | 2000-3000 |
| Гречка | 480 | 500 | 600 |
| Горох | 500 | 430-450 | 450 |
| Пшено | 350 | 340 | 520 |
| Сахар | 680 | 660 | 700 |
| Мука в/с | 450 | 420 | 525 |
| Рис | 560 | 550-560 | 650 |
| Макароны | 580-650 | 550 | 650 |
| Яйца | 1000 | 1034 | 1050 |

| КУРСЫ ВАЛЮТ (Барановичи) | $ | DM | RUR |
|---|---|---|---|
| Банки | 1560-1590 | 690-720 | 51-53 |
| «Черный рынок» | 1560-1590 | 700-720 | 51,5-53 |

| КУРСЫ ВАЛЮТ (Ганцевичи) | $ | DM | RUR |
|---|---|---|---|
| Банки | 1570-1590 | 650-700 | 50-53 |
| «Черный рынок» | 1570-1600 | - | 50-53 |

# У лясгасе новы дырэктар

Загадам старшыні Камітэта лясной гаспадаркі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь новым дырэктарам Ганцавіцкага лясгаса прызначаны Аляксандр Іванавіч Муха, які да гэтага працаваў галоўным ляснічым у названай арганізацыі.

19 снежня новага дырэктара прадставіў калектыву лясгаса начальнік Брэсцкага абласнога лесагаспадарчага аб'яднання А.С. Ільюкевіч.

А.І. Муха не навічок у лясной гаспадарцы. Ен скончыў Полацкі лясны тэхнікум, потым Беларускі дзяржаўны тэхналагічны інстытут. У 1984 годзе працаваў майстрам лесу ў Мазырскім лясгасе, з 1984 па 1986 год памочнікам ляснічага Хатынiцкага лясніцтва, з 1987 па па 1993 гады – ляснічым Малькавіцкага лясніцтва. У 1993 годзе быў прызначаны на пасаду галоўнага ляснічага Ганцавіцкага лясгаса.

Аляксандр Іванавіч –чалавек не прыезджы. Нарадзіўся і вырас ен у вёсцы Малыя Кругові́чы нашага раёна.

Канстанцін МОХАР





## Горожане отвечают

**Отразилось ли повышение минималки на вашем семейном бюджете?**



**Владимир Владимирович Буйкевич, пенсионер.**

- Я думаю, что отразится оно с худшей стороны. Цены вырастут в процентах больше, чем зарплата и тем более пенсии. Хуже всего будет пенсионерам.



**Иван Павлович Сайко, сторож лицея.**

- Меня это не устраивает, потому как минималка повысилась, а цены растут как грибы из-под земли.




**Виталий (районное отделение «Охрана»)**

- Пока на моем бюджете это не отразилось, но думаю, что цены только вырастут.



**Елена Лашко, работник завода «Пищевик».**

- Пускай увеличивается. Главное, чтобы рост зарплаты не отставал.



**Татьяна Иосифовна, продавец на рынке.**

- Добра от этого повышения ждать не приходится. Я пенсионерка, а вот боюсь, что на бюджете моей дочери отразится. Она - уборщица, 30 тысяч получает, жить как-то надо.

Беседовал Константин МОХОР
Фото Петра ГУЗАЕВСКОГО

Чалавек і яго справа

# Сям'я майстроў

Ёсць людзі, якія майстрамі не становяцца, а нараджаюцца. Талент, здольнасці да той ці іншай справы ўласцівы ім з самых першых крокаў па зямлі. А ў той справе, якую асэнсавана выбралі, яны дабіваюцца сапраўдных вяршынь дасканаласці.

Менавіта такім чалавекам можна назваць народнага ўмельца, майстра разьбы па дрэве Аляксея Андрэевіча Задзяркоўскага. Гэтай справай ён захапіўся яшчэ ў школьныя гады. Пасля службы ў арміі майстэрства яго ўзрасло мнагакратна. Слава пра народнага ўмельца разляцелася па ўсёй Беларусі. Адна за адной арганізоўваліся выставы яго работ у Мінску, Гомелі, Пінску, іншых гарадах рэспублікі, дэманстраваліся на ВДНГ СССР. Пазалетась, напрыклад, работы разьбяра дэманстраваліся ў Траецкім прадмесці, у мінулым годзе на выставе "Панскі карагод" у Пінску. І тады, і раней яны заслужылі самую высокую ацэнку знаўцаў народнай творчасці.


Фота Пятра ГУЗАЕЎСКАГА

• Народны майстар А.А. Задзяркоўскі

Аляксея пачалі клікаць да сябе на пастаянную работу самыя прэстыжныя фірмы з усіх куткоў былога СССР. Апошняе запрашэнне на пасаду галоўнага канструктара Аляксей атрымаў з рэспубліканскага аб'яднання мастацкіх промыслаў і... адхіліў яго, бо не хацеў здраджваць сваёй малой радзіме, да якой прыкіпеў душой і сэрцам.

Захапленне разьбой па дрэве перадалося і сынам Аляксея Андрэевіча — студэнту Мінскага эканамічнага каледжа Яўгену і адзінаццацікласніку СШ № 3 Андрэю. Яны не толькі верныя памочнікі бацькі, але і самыя сапраўдныя майстры. Зробленыя іх рукамі карнізы, пано, мэбля і іншыя вырабы, бадай, нічым не адрозніваюцца ад бацькоўскіх.

Плённа працуе разьбяром і брат Аляксея Ігар, захапляецца гэтым заняткам і старэйшы Віктар. Так што разьбярства стала сямейнай і любімай справай Задзяркоўскіх.

Кастусь ЛУГАВЫ

Наша почта

# Как живешь, педагог?

Слово "педагог" означает "детский руководитель". В Античной Греции педагогом назывался раб, сопровождавший детей из богатых семей в школу и из школы и следивший за их учебой. Благодаря влиянию образованных рабов процесс усвоения знаний приобретал воспитательный характер с созиданием личности воспитанника.

Что изменилось спустя тысячелетия? По своей профессиональной функциональности педагог остался детским руководителем, целью всех образовательных и воспитательных методик и программ осталось формирование личности ребенка. Мы являемся образованной частью нашего общества, нас иногда величают элитой его. А по сути? Мы, к сожалению, остались образованными рабами и, что страшнее всего, привыкли у этому состоянию. Считается нормой, когда учитель поднимает урожайность колхозной свеклы, ученики занимаются заготовкой сельхозпродуктов для школьных столовых, педколлективам доводят планы по заготовке сена для скота. И дело вовсе не в том, что нас "убудет" от этого, а в полезности таких дел для общества. Кто подсчитал "прибыльность" такой политики для народного хозяйства? Потери же учебного производства очевидны. Ученики сельских школ задействованы на сельхозработах не меньше месяца. А ведь за результаты контрольных срезов свыше отвечают их учителя. Не отсюда ли начинается цепочка льгот для выпускников сельских школ при поступлении в ВУЗы? Проигрывают более подготовленные, но без льгот, абитуриенты, средний образовательный уровень снижается, следовательно, и будущих специалистов тоже — круг замыкается. Кто в выигрыше? Никто. Нищая страна со множеством льгот за счет тех, кому их дает. А критерий отбора должен быть один — интеллект, знания. Задача государства заключается в том, чтобы создать равные условия (материальные, информационные, образовательные и т.д.) для всех.

Кто же тогда пойдет работать в сельские районы? Все знают, что сельскому учительству приходится особенно трудно, оно выживает, "обрастая" огородами, хозяйством, попадая в экономическую зависимость от колхозного руководства. Выход может быть только один — государство должно обеспечить конституционное право на "достойный уровень жизни" каждому человеку и все проблемы будут разрешены.

Кто же виноват в том, что плохо и не так живет? Учителям уже запрещено даже питаться в школьных столовых за свои деньги. А у них не такой режим дня, как на производстве, учитель часто целый день находится в школе. Как чувствует он себя, голодный по 8 — 12 часов? И физически, и морально плохо. Кого винить? Себя. Мы все заложники системы, которая существует благодаря нашему страху, чинопочитанию. Мы ее создатели и подпитка.

Истина была и есть одна — каждый должен заниматься своим делом: врач лечить, учитель учить, власть должна издавать законы и управлять — в наших интересах — мы ее избрали. Определяющим успеха должен быть профессионализм каждого.

А к учителю должно быть особое, бережное отношение. Ведь ему отдано самое сокровенное — ум и душа ребенка. И все свое время он должен посвятить профессиональному долгу — сотворению личности воспитанника и самосовершенствованию. Ибо что сотворили — то и получили. А раб, по сути, смотрящий всегда под ноги, чтобы не споткнуться, не сможет дать самого главного — научить без страха смотреть вперед, видеть не "сияющие горизонты" и очередного ...изма, а реальную дорогу своей жизни и своей страны.

Надежда ПЕТРУЧЕНЯ

Спорт

# Памераліся сіламі шахматысты

**У сярэдзіне снежня ў Ганцавічах прайшоў шахматны турнір, прысвечаны памяці Яўгена Канстанцінавіча Белюка – фаната і сапраўднага майстра гэтай старажытнейшай гульні.**

Ён стаяў ля вытокаў шахматнага руху ў раёне, выхаваў шмат дастойных спартсменаў. Сярод іх майстар спорту РБ па шахматах Іван Бондар і кандыдат у майстры спорту Мікалай Агейка.

Памерацца сіламі сустрэліся каманды дзесяці школ раёна і гімназіі №1 г. Баранавічы. У выніку ўпартай барацьбы перамаглі госці, на другім месцы была каманда Люсінскай сярэдняй школы, на трэцім — сярэдняя школа № 3 г. Ганцавічы.

У асабістым заліку мацнейшымі аказаліся Іван Бондар (Любашаўская базавая школа ) і Юрый Крулікоўскі (гімназія №1 г. Баранавічы), якія падзялілі паміж сабой першае і другое месцы. Турнір выявіў лепшых спартсменаў сярод школьнікаў. Імі сталі М. Кобрын і Р.Вайда (г. Баранавічы) і С.Локтыш (Люсінская СШ). Мацнейшымі ў дзяўчынак былі Юлія Плоўская (Баранавічы), Тацьяна Локтыш (Люсіна) і Воля Івановіч (выхаванка раённага цэнтра дзіцяча-юнацкай творчасці).

За ходам турніру ўважліва сачыла ўдава Я. К. Белюка Г. Д. Говар. Яна выказала ўпэўненасць, што падобныя спаборніцтвы стануць традыцыйнымі, і выказала шчырую ўдзячнасць іх арганізатарам за захаванне светлай памяці мужа.

Алег НОВІК

Рэха вайны

# Запозненае прызнанне

**Больш за паўстагоддзя мінула з таго часу, калі адгрымелі апошнія залпы самай жудаснай у гісторыі чалавецтва другой сусветнай вайны. Але не ўсе яе героі вядомы, не ўсе ўдзельнікі прызнаны.**

Вось і ганцавічаніну Ягору Дзмітрыевічу Саннікаву спатрэбілася цэлых 56 пасляваенных гадоў на тое, каб даказаць свой удзел у завяршальнай фазе другой сусветнай — у японскай кампаніі.

Спроба пацвердзіць свой удзел у ваенных дзеяннях Ягор Дзмітрыевіч прадпрымаў неаднаразова, апошні раз — у 1993 годзе, але безвынікова. Так і застаўся б франтавік непрызнаным, калі б на яго жыццёвай дарозе не сустрэўся чулы і спагадлівы чалавек - галоўны спецыяліст Ганцавіцкага райвыканкама па сацыяльна-бытавых пытаннях Іван Іванавіч Швайка. На яго запыт у Цэнтральны архіў Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі ў Падольску, нарэшце, прыйшоў станоўчы адказ: радавы 73 палка супрацьпаветранай абароны Я. Д. Саннікаў сапраўды летам — восенню 1945 года прымаў удзел у баявых дзеяннях з японцамі.

Нядаўна ў райвыканкаме Ягору Дзмітрыевічу ўручылі пасведчанне ўдзельніка Вялікай Айчыннай вайны. Разам з ім ветэран атрымаў усе правы на льготы, якімі карыстаюцца ўдзельнікі вайны і, што немалаважна ў наш нялёгкі час, істотную прыбаўку да пенсіі.

Віншуем вас, Ягор Дзмітрыевіч! Прызнанне вашых ваенных заслуг, хаця і запозненае, усё ж прыйшло да вас.

Любоў ІЛЬІНА

Паэтычная гасцёўня

* * *

*Пра беды думае сяло.*
*Іх многа ў яго наспела.*
*І першая бяда-сіло*
*Насельніцтва на вёсцы пастарэла.*
*Знядужаў люд, на кій апёрся.*
*Не бачыў ён курортаў рай.*
*А бачыў толькі вілы, граблі,*
*Ды заклікі – саджай, збірай.*
*Пра беды думае сяло.*
*Іх многа ў яго наспела.*
*Бяда другая: што віно*
*У вартасці так патаннела.*
*Раней кілішак, няхай два*
*На свята вёска падымала.*
*Цяпер жа п'юць амаль штодня*
*І гора ёй ад таго мала.*
*Пра беды думае сяло.*
*Іх многа у яго наспела.*
*Была і школа, ды даўно*
*На дзетак вёска абяднела.*
*Тут не гамоніць школьны рой.*
*Мароз пустыя класы студзіць.*
*І моладзь песеннай гурбой*
*Сяло начное не папудзіць.*
*Пра беды думае сяло.*
*Хоць з сямі печаў хлеб свой ела –*
*Не ўратавалася гнязда.*
*Яно заўчасна апусцела.*
*У гарадскі Эдэм усе*
*Імкліва свой палёт прасталі.*
*І як горкая выснова ўсяго:*
*Без роду-племені ў ім сталі...*

Леанід ДАРАШЭНКА



## Частные объявления



## Смех ды і толькі

Пачула маці, што Антось яе плача. Выскачыла на двор і пытае: – Чаго ты, сынок? – Певень на нагу наступіў. – Ну што ж за бяда, певень не конь, нагі табе не пакалечыў. – Ага, не скалечыў, а як пад старасць, то і гэта адгукнецца.

– Хадзем, Пятро, на рыбалку! – Ды я ж не ўмею лавіць рыбу. – А што там ўмець? Налівай ды выпівай.

– Чаму ў цябе, куме, галава сівая, а барада чорная? – Вось недагадлівы! Бо барада за галаву гадоў на 20 маладзей.

– Кумок, прыйдзі папраў дзверы. Каты лазяць. Кумок як паправіў, сабакі сталі лазіць.

– Не разумею, як ты можаш выходзіць замуж за кульгавага? – Ну, дык што? Ён жа толькі тады кульгае, як ходзіць.

У аднаго чалавека памерла цешча. Паехаў ён з жонкаю на пахаванне. Жонка галосіць каля маці, а гаспадар яе стаіць сабе збоку. Тады жонка і кажа яму: – Ты паплакаў бы па маме, пагаласіў. Няўжо табе не шкада яе? Падступіў чалавек да нябожчыцы, ды давай галасіць. – А матухна, мая матухна. Бывала ж, як прыеду я да цябе са сваёю Маланкаю, дык ты Маланцы сыр са смятанкаю, а мне сы-ро-ват-ку-у..! – Ну, то годзе ўжо. Чаго ты гэтак разгорніўся?

Збіраў Лявон ГАЛАСЕЙ

# Кроссворд

**По горизонтали:**
1. Многолетнее травянистое растение рода банан. 4. Настоятель католического монастыря. 8. Совокупность букв, слоговых знаков, расположенных в определенном порядке. 9. Озеро в Венгрии. 12. Драгоценный камень. 13. Один из семи холмов, на которых возник Древний Рим.14. Химический элемент, серебристо-белый мягкий металл. 17. Минерал группы гранатов. 18. Отклонение от нормы, неправильность. 19. Советский актер, народный артист СССР (с 1983 г.), снимался в фильме "В огне брода нет". 21. Овощная культура. 26. Древнеримский врач, дал первое анатомо-физиологическое описание целостного организма. 28. Высочайшая горная система земного шара. 29. Изречение, выражающее обобщенную, законченную мысль. 30. Соглашение двух или более лиц об установлении, изменении или прекращении гражданских прав и обязанностей. 31. Государство в Южной Америке. 32. Несамоходное грузовое судно, перемещаемое буксиром. 33. Поворот.

**По вертикали:**
2. Город (с 1955г.) в Иркутской обл. 3. Самоходная тележка с двигателем внутреннего сгорания и грузовой платформой. 4. Честолюбие, обостренное самолюбие, самомнение, спесь. 5. Медленный сольный или дуэтный танец в классическом балете. 6. Звезда в созвездии Орла. 7. Человекообразная обезьяна. 10. Наука о защитных свойствах организма, его иммунитете. 11. Поедание человеческого мяса, распространенное у первобытных народов. 15. Река в Беларуси и Литве, правый приток Немана. 16. Род деревьев и кустарников семейства тутовых. 20.Денежная сумма, выдаваемая в счет причитающихся платежей. 22. Вид барометра. 23. Полость, возникающая в органе при разрушении его тканей патологическим процессом. 24. Революционный народник, один из создателей и руководителей "Народной воли". 25. Группа индейских народов в США. 27. Материк.

**Ответы на кроссворд, опубликованный в № 49**

*По горизонтали:*
*1. Газета. 3. Смычка. 8. Гамбург. 9. Деникин. 12. Руст. 13. Камикадзе. 14. Чаша. 17. Дофин. 20. Илион. 21. Вавилон. 22. Понтий. 23. Ельцин. 27. Декабрь. 28. Иоанн. 29. Бояре. 34.Кино. 35. Принцесса. 36. Пиза. 39. Крейсер ("Аврора"). 40. Держава. 41. Ваучер. 42. Платон.*

*По вертикали:*
*1. Гетера. 2. Тьма. 4. Маки. 5. Атаман. 6. Гусар. 7. Князь. 8. Гасконь. 10. Неаполь. 11. Скифия. 15. Гильотина. 16. Гладиатор. 18.Галилей. 19. Доллары. 24. Плотник. 25. Палица. 26. Барщина. 30. Чкалов. 31.Брест. 32."Искра". 33.Сайгон. 37. Вече.38. Карл (король).*

## Прогноз для знаков Зодиака 24.12.2001 г. - 30.12.2001 г.

**Овен.** На этой неделе Вас ожидает много невероятных, необычных событий. Ничему не удивляйтесь и будьте ко всему готовы. К счастью, эти неожиданности будут приятными.

**Телец.** Ваш образ жизни может кому-то не понравиться. Ваши действия не всегда будут находить отклик у окружающих. Не надо доказывать свою правоту. У каждого свое мнение.

**Близнецы.** Следует предостеречь Вас от публичного откровения, когда Вы можете выболтать некоторые свои тайны. Это может произойти из-за излишнего употребления алкоголя или из-за того, что Вас выведут из себя.

**Рак.** Не рискуйте, изменяя свою Судьбу, – на этой неделе от Вашего желания она мало будет зависеть. Не делайте опрометчивых поступков, в которых Вам потом придется раскаиваться.

**Лев.** Не спешите на этой неделе. Поспешность во всем может привести к неприятным последствиям, результаты которых трудно будет нейтрализовать.

**Дева.** Не за горами день, когда Вы "выйдете на подмостки" и удивите весь мир. Готовьтесь к этому дню: копите силы, "готовьте праздничный наряд".

**Весы.** Не будьте нетерпеливы. Все, что должно случиться, случится; все, что Вы заслужили, Вы получите. Не надо грубить, неуважительно относиться к людям. События этой недели имеют далеко идущие последствия.

**Скорпион.** Забегая вперед, просчитайте свои поступки на ближайший месяц, запланируйте для себя важные дела. За этими делами Вы и не заметите, как пролетит неделя.

**Стрелец.** Для Вас благоприятна будет первая половина недели. Не планируйте важных дел на четверг и пятницу. Приготовьтесь к приему гостей. Не переусердствуйте в употреблении спиртного.

**Козерог.** Следите за своим самочувствием. Не упускайте ни малейших признаков болезни. Сразу же их устраняйте. Это связано с наступлением периода ослабления иммунитета.

**Водолей.** Небезопасно проявление излишнего рвения. Хотя Вас и переполняют силы, но подумайте о том времени, когда они иссякнут, а окружающие будут ожидать от Вас все тех же немедленных результатов.

**Рыбы.** Не спешите делать крупные покупки, так как может наступить время, когда Вы окажетесь на мели. Женщинам надо остерегаться представителей мужского пола.

СергейСВАРОГ

## Увага! Увага! Увага!

Да Новага года "Спадарожнік" прымае ўсю рэкламу (віншаванні, прыватныя аб'явы, спачуванні і г.д.) **бясплатна.** Па вашым жаданні **віншаванне блізкім, родным, сябрам і знаёмым можа быць надрукавана з фотаздымкам юбіляра ці імянінніка,** з вершаванымі радкамі ў іх адрас, дасланымі вамі ці падабранымі супрацоўнікамі рэдакцыі. Скарыстайце гэтую магчымасць і павіншуйце блізкіх вам людзей праз нашу газету ў бліжэйшых і навагоднім нумарах!

З 2002 года ўся рэклама (акрамя купонаў для бясплатных аб'яў), як і ва ўсіх іншых выданнях, будзе каштаваць пэўную суму, хаця мы будзем імкнуцца трымаць цэны ў разумных і даступных кожнаму межах.

## Правила подачи частных объявлений в газету «Спадарожнік»

**Частные объявления в газету «Спадарожнік» принимаются на купонах, вырезанных из газеты «Спадарожнік».**

**Один купон должен содержать одно объявление в одну рубрику. При заполнении каждая буква вносится в отдельную клеточку, между словами пропускается по одной клетке.**

**Неразборчиво заполненные купоны не рассматриваются и не возвращаются.**

**Купоны принимаются по адресу: 225440 г.Ганцевичи, ул. Заслонова, 4**

**Купон для частного бесплатного объявления**

РУБРИКИ: ПРОДАМ МЕНЯЮ КУПЛЮ УСЛУГИ ЗНАКОМСТВА РАЗНОЕ Дата выхода

Текст писать разборчиво, печатными буквами

Сведения не для печати:

Ф.И.О. ________

АДРЕС: ________

д. ______ кв. ______

ТЕЛЕФОН ________ «___» ________ 200 —

ДЕЙСТВИТЕЛЕН с 21.12.2001 г. по 5.01.2002 г.

## Примите поздравления!

***Дорогой наш любимый сынок и братик, Эдик Шуляковский!***
***От всей души поздравляем тебя с юбилейным днём рождения, твоим 10-летием.***

*Расти, сынок, на радость своей маме*
*И на отца равняясь, подрастай!*
*И будь упрям!.. А вот упрямо*
*И счастья своего не проморгай!*
*Сегодня в этот светлый день рожденья*
*Прими от нас подарки, поздравленья!*

**Мама, папа, сестричка Катя.**

***Валентин Вацлавович ШУЛЯКОВСКИЙ,***
***прими наши искренние пожелания здоровья, долгих лет жизни, семейного благополучия, удачи.***

*Будь богатый, как хлебное поле,*
*Многолетним, как дуб вековой,*
*Вольным, как птица на воле*
*И сильным, как ветер степной.*

**Брат Слава и его семья.**

***Дорогая Леночка Шалова, поздравляем тебя с днем рождения — 14-летием.***

*Желаем быть богаче, чем земля,*
*Желаем быть красивей, чем рассвет.*
*И счастья верного на много-много лет.*

**Мама, сестра Ульяна, племянники Марина, Дима и друзья.**

**Любимая внученька и племянница Наташенька ГУСИК, поздравляем тебя с днем ангела!**

*Все вместе в день рожденья твой*
*Желаем сердцем и душой*
*Здоровья, бодрости и смеха,*
*Во всех будущих делах твоих успеха*
*И чтоб светила бы всегда*
*Тебе счастливая звезда!*

**Бабушка, дедушка, дядя.**

Індэкс: 63526 - інд. падпіска. Аб'ём: 1 ум. друк. аркуш.
Адрас рэдакцыі: 225320 г. Баранавічы, вул. Жукава 12/3-48.
Карэспандэнцкі пункт у Ганцавічах: 225440 вул. Заслонава,4. Тэл. 2-14-50
Для лістоў: 225440 г.Ганцавічы-2 а/с 15

Галоўны рэдактар Алег ПАНАМАРОЎ
Намеснікі галоўнага рэдактара: Канстанцін МОХАР, Пётр ГУЗАЕЎСКІ.
Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Адказнасць за дакладнасць друкуемых фактаў і падзей нясуць аўтары. Выказаныя ў дасланых матэрыялах думкі могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі газеты і не накладаюць на яе ніякіх абавязкаў. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Надрукавана ў РУВП "Баранавіцкая ўзбуйнёная друкарня", па адрасу: вул. Савецкая, 80
Падпісана ў друк 20.12.2001 г. у 8.00. Зак. 4004. Тыраж 1000 экз.

Заснавальнік і выдавец Янукевіч Уладзімір Аляксандравіч
Пасведчанне аб рэгістрацыі N 1416 ад 30 снежня 1999 г.